№ 48 Ausgabe B.

# ГОМАН

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі:
М. Стэфанская 23

Цэна с перасылкай і дастаўкай да хаты:
на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Цэна абвестак:
на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам

№ 48 (244). Год III. Вільня, 14 чэрвеня 1918 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.)

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## 13 чэрвеня.

Заходні тэатр.

*Фронт Рупрэхта Баварскага*: Ад часу да часу — бітвы артылерыі. Мясцовые пешые бітвы.

*Фронт нямецкага Насьледніка*: На палудзенным заходзі ад Нуаён французы аднавілі свае контратакі наабапал гасьцінцу Руа-Эстрэ-Ст. Дэні. С самымі цяжкімі стратамі зламаліся і гэтые штурмы. На полі баталіі лежаць больш за 60 разбітых стрэламі панцырных самаходаў. Чысло палонных больш за 15.000. Чысло здабытых гармат перайшло за 150 Адбіваючы варожые контратакі некаторые нашы гарматы, выехаўшые на пярэдніе пяхотные пазыціі, папалі ў рукі ворагаў.

На поўначы ад Эн нашы штурмовые дружыны ўварваліся ў варожые акопы. На поўдні ад Эн, пасьля сільнай артылер. падгатоўкі, мы атакавалі ворагаў і выкінулі іх з іх ліній на ўсход ад Кітры-Дом'е. На поўначы ад Корсі даліна Сав'ер ачышчэна ад ворагаў. Мы ўзялі больш за 1.500 палонных.

Новые чысьленые атакі ворагаў на паўночным заходзі ад Шато-Т'еры зламаліся с крывавымі стратамі.

---

За апошніе два дні зьбіты 25 варожых самалётаў. Капітан Бэртольд і паручык Мэнкгоф дайшлі кожын свае 33 пабеды.

---

БЭРЛІН Урадова. 12.VI. Аўстрыяцкі міністэр заграгічных спраў, Бурыан, прыбыў 11.VI. ў Бэрлін, а сягоньня выехаў назад у Вену. Між ім і кіраўнікамі нямецкае палітыкі адбыліся нарады, на каторых былі закрануты ўсе пытаньні, стаяўшые на чародзі. Перэгаворы ішлі ў духу ўзаемнага даверыя і зразуменьня і даюць надзею, што гэтые пытаньні выясьнены і ў найбліжэйшым часе будуць разьвязаны так, што здаволяць усіх учасьнікаў.

БЭРЛІН. Ад 23 марца немцы здабылі 6.556 кв. кіл. абшару. Саюзьнікі ў ва ўсіх сваіх вялікіх баталіях на Сомме, пры Арра і ў Фляндрыі за доўгіе месяцы безупыннае барацьбы здабылі толькі 561 кв. кіл.

Чысло палонных ад пачатку марцовага наступленьня дайшло 208.000 душ.

АМСТЭРДАМ. Марское міністэрства Злучэных Штатаў апавешчае, што рух параходаў будзе знаходзіцца адгэтуль пад яго кантролем.

Наказываюць аб напасьцях падводных лодак с Коннэктікут і Віргініі. Падводные лодкі зьявіліся і ў іншых часьцях Атлянтыцкага акіана. Дзеля абароны ад іх тарговые параходы будуць хадзіць пад ахранай ваенных. Нью ёркскі порт усё яшчэ зачынен.

ЛОНДОН. Амэрыканскае марское міністэрства дзеля абароны параходнага руху ўздоўж узьбярэжжа ад далейшых напасьцей падводных лодак заводзіць сыстэму канвояў.

ВАШЫНГТОН (Рэўтэр). На вышыні Мэрыленд амэрыканскі параход «Pinar del Rio» затоплен падводнай лодкай. Усе людзі выратаваны.

БЭРЛІН. 11 чэрвеня між Мондід'е і Нуаён французы, добра разумеючы вагу ўтрачэных у папярэдніе дні пазыцій, атакавалі некалькімі дывізіямі густой масай, каб вярнуць страту. Усе іх спробы зусім не ўдаліся, і яны мелі цяжкіе страты.

БЭРЛІН. У Рэйхстагу прэдстаўнікі ўраду заявілі, што сёлета збор віпэнь дасьць толькі трэціну звычайнага ўраджаю.

---

*Вільня, 14 чэрвеня 1918.*

Палякі не спыняюць свае работы, кіруючыся да захвату Беларуска-Літоўскіх зямель. Не ўдалося ім зрабіць гэтага рукамі немцаў, дык кінуліся да „антанты“,— і вось, як наказываюць телеграмы, ваенная рада саюзьнікаў у Вэрсалі, зложэная с прэдстаўнікаў Англіі, Франціі, Італіі і інш.,-прыняла рэзолюцыю аб адбудове Польшчы *з доступам да мора*, каторы, як вядома, можэ быць або праз Нямеччыну, або праз Беларусь і Літву. А як дабіцца доступу да мора праз Нямеччыну, не разграміўшы апошняе, нельга, дык ясна, што саюзьніцкіе дзержавы будуць паддзержываць польскіе захватные пляны на Беларуска-Літоўскіе землі.

Літоўская нацыональная рада ў Бэрне паслала проці гэнай пастановы тэлеграфны пратэст прэм'ер-міністрам Франціі, Англіі і Італіі, уважаючы, што правядзеньне вэрсальскай пастановы немагчыма без нарушэньня літоўскіх граніц. Але с Польшчы ў Літву дарога йдзе праз Беларусь, — і мы с свайго боку горача пратэстуем проці спроб захапіць хоць адну пядзь нашай зямлі, скуль-бы яны ні выходзілі.

Мы знамяніта разумеем і, як сьлед, ацэніваем палітыку „антанты“, каторая коштам Беларусі і Літвы хацела-бы збудаваць „вялікую Польшчу“: гэта—адзін с чысленых спосабаў перэцягнуць Польшчу на свой бок і абярнуць яе ў дужога і небаспечнага ворага Нямецкае дзержавы. Золата, якое шырокай ракой лілося ў польскіе рукі з Англіі, Франціі і Амэрыкі—на арганізацыю ў Расеі польскіх легіонаў, мала памагло: Доўбор-Мусьніцкі са сваім войскам перакінуўся да немцаў, а цяпер яго легіоны ўжо не істнуюць. І не маючы магчымасьці абаперціся на Польшчу ўжо цяпер — у часе вайны, „антанта“ прыгатовывае грунт для сваіх палітычных інтрыг, прыносячы ў ахвяру ім долю двох народаў: беларускага і літоўскага.

Аднак, мы спадзяёмся, што так сама, як не ўдалася „антанце“ афэра с польскімі легіонамі ў Расеі, не ўдасца і новая вэрсальская афэра: жывые народы — гэта не нейкіе рэчы, каторые нехта можэ „дарыць“ таму, ці другому. Беларускі і літоўскі народ ужо выявілі сваю волю жыць незалежным жыцьцём, ды яны сваю незалежнасць здабудуць, ня гледзячы ні на якіе прашкоды.

---

## Польскіе мінімальные дамаганьні.

ВАРШАВА (В.Т.Б.). 10.VI. Міністэр-прэзыдэнт Стачковскі, паводлуг газэтных вестак, падаў у Бэрліне і Вене гэткіе мінімальные дамаганьні: саюз с цэнтральнымі дзержавамі; ваенная конвэнція з імі; дзержаўная незалежнасць; ненарушымасць граніц конгрэсовай Польшчы; *тэрыторыальнае пашырэньне на этнографічна-польскіх (?!) землях на усход ад лініі Нарэу-Бабёр-Нёман*, як адплата за ўтрату літоўскіх паветаў Владыславоўскага, Кальварыйскага, Вілковіскага і Марыампольскага, прыналежаўшых да конгрэсовай Польшчы; папраўка граніцы з Украінай згодна з стратэгічнымі вымогамі і магчымасць экономічнага разьвіцьця на грунце тарговае ўмовы, каторая забаспечыла-бы свабодны рух па Вісьле з выхадам да мора.

---

## Напярэдадні разьвязкі.

Газэты прынесьлі вестку, што ў Бэрлін прыехала ўжо расейская дэлегація дзеля перэгавораў аб дадатковых пунктах да мірнае ўмовы. Гэтые пункты, паводлуг прэдлажэньня Расеі, маюць датыкаць справы Эстляндыі, Ліфляндыі, Крыму і Каўказу, абмена палоннымі і паадзінокіх экономічных пытаньняў.

Як бачым, справу Беларусі, каторая занята безмала ўся нямецкімі вайскамі і пасьля ўцёку большэвікоў аб'явіла сябе незалежнай дзержавай, Расея лічыць для сябе яснай: пристаўшы ў Бярэсьці на разьдзел беларускіх зямель, яна думае, што так ці сяк усходняя Беларусь вернецца ізноў пад яе панаваньне. І між справамі, якіе павінны быць разгледжэны цяпер у Бэрліне, расейцы справы Беларусі не паставілі.

Аднак, пэўнасць Расеі не мае пад сабой ніякага грунту. Перш за ўсё апавешчэньне законным прэдстаўніцтвам беларускага народу незалежнасьці свае Бацькаўшчыны ёсць акт нацыанальнага самаазначэньня, прынцып каторага прызнан большэвіцкім урадам. З другога боку ўкраінскі ўрад у самым пачатку мірных перэгавораў між Расеей і Украінай заявіў, што ён не прызнаець права Расеі прамаўляць ад імі Беларусі, каторая сама будзе за сябе гаварыць, ак незалежная дзержава. Цяпер толькі ўзьнімаецца пытаньне, як аднясецца да справы незалежнасьці Беларусі нямецкі ўрад дый, наагул, цэнтральные дзержавы.

У палітыцэ, як вядома, ўсё асновываецца не на сымпатыях або антыпатыях між народам і дзержавамі, а на іх інтарэсах, на іх карысьці. І вось, калі цяпер перад намі ўзьнімаецца пытаньне, якое становішчэ можэ заняць Нямеччына ў беларускай справе, дык ,мы павінны выясьніць сабе, ці для Нямеччыны карысна, каб Беларусь тварыла незалежную дзержаву.

---

Рэдакція „Гомана“ просіць усе пісьмы, рукапісы да друку, карэспандэнціі, газэты і т. п. пасылаць ёй **Т О Л Ь К І** па адрасу: **Віленская вул. 33, кв. 1.**

